ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №103 (4460) СУБОТА, 24 снежня 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## "НЕ ТРАЦІЦЬ ВЕРУ Ў ПЕРАМЕНЫ ДА ЛЕПШАГА"

### НА ПЫТАННІ ЧЫТАЧОЎ "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ" АБ ШЛЯХАХ РЭФОРМЫ СЯРЭДНЯЙ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНАЙ ШКОЛЫ АДКАЗВАЕ МІНІСТР АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ПРАФЕСАР ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ

**—Васіль Іванавіч, два месяцы таму Міністэрства адукацыі і навукі вынесла на абмеркаванне педагагічнай грамадскасці краіны Стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы. Свае думкі, меркаванні і прапановы на старонках "Настаўніцкай газеты" выказваюць настаўнікі, выхавацелі і кіраўнікі дашкольных устаноў, арганізатары адукацыі, работнікі прафесійна-тэхнічнай і вышэйшай школы, навукоўцы. Ужо можна, напэўна, зрабіць пэўныя высновы з грамадскай экспертызы Стратэгіі?**

— Як я пераканаўся з артыкулаў у "Настаўніцкай газеце" і на сустрэчах з настаўнікамі і іншымі работнікамі адукацыйнай сістэмы ў розных рэгіёнах Беларусі, большасць педагогаў Стратэгію падтрымлівае. Яны разумеюць, што рэформа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы — патрабаванне жыцця. Цікавіць жа іх найперш тое, як хутка Стратэгія будзе рэалізоўвацца і ці ёсць для рэфармавання матэрыяльныя ўмовы. Вось гэта галоўнае, што клапоціць людзей.

**— Дакументы, якія абгрунтоўваюць і вызначаюць шляхі, сродкі і метады істотных пераўтварэнняў у адукацыі, не ствараюцца за адзін дзень ці тыдзень. Гэта вынік працяглай калектыўнай працы; вынік асэнсавання, аналізу працэсаў у адукацыйнай сістэме; вынік педагагічнай, метадычнай, навуковай і г.д. экспертызы становішча спраў у адукацыі. Чытачы "Настаўніцкай газеты" пытаюцца: хто ўваходзіў у "мазгавы цэнтр" па выпрацоўцы Стратэгіі, хто яе аўтары?**

— Каб адказаць на гэта пытанне, трэба зрабіць экскурс у гісторыю.

Ідэя аб рэформе сярэдняй адукацыі (у тым ліку аб падаўжэнні тэрміну навучання вучняў у школе) пачала абмяркоўвацца яшчэ ў былым Саюзе ў 1987 годзе. Я нагадаю, што пра неабходнасць рэформы адукацыйнай сістэмы пісаў 30 красавіка 1990 года ў "Настаўніцкай газеце" загадчык Брэсцкага аблуна Рыгор Данілавіч Богнат. А год таму павелічэнне тэрміну навучання ў сярэдняй школе прапрацоўвалася ў Савеце Міністраў. І калі дадаць да гэтага, што ва ўсёй Еўропе частка дзяцей вучыцца ў школе 12 гадоў, то відавочна, што ідэя рэфармавання сярэдняй адукацыі не новая, тут ніхто не з'яўляецца першапраходцам. Гэта па-першае.

Па-другое, калі я ў апошнія два гады пачаў грунтоўна думаць пра рэформу вышэйшай школы, то зразумеў: мадэлі вышэйшай школы, якая адпавядала б часу, мы не створым, калі не зменім нашу сістэму сярэдняй адукацыі. І я пачаў два гады таму гаварыць, што нам патрэбна рэформа сярэдняй адукацыі, у тым ліку і павелічэнне тэрміну навучання ў школе. Да гэтай думкі мяне падвяло азнаямленне з вопытам ліцэяў: у галоўных рысах там ёсць тое, да чаго мы павінны імкнуцца ў навучанні вучняў апошніх двух школьных класаў.

Вось усё гэта было мной прааналізавана і асэнсавана. Калі мяне назначылі міністрам, то я запрасіў да сябе работнікаў міністэрства Рашчынскую і Ліс і сумесна з імі мы пачалі працаваць над стратэгіяй рэформы адукацыі. Пасля да яе распрацоўкі далучыліся і іншыя работнікі апарату міністэрства — пералічваць усіх не буду. Я меў размову аб рэформе таксама і з дырэктарам Нацыянальнага інстытута адукацыі Уладзімірам ФёдаравічамВаладзько.

У выніку ўсёй гэтай працы з'явіўся той дакумент, які надрукаваны 26 кастрычніка ў "Настаўніцкай газеце".

**— Значыць рэформа ідзе ў школу "зверху"?**

—Гэта памылковая думка. Стратэгія акумулявала ў пэўнай меры меркаванні шырокай педагагічнай грамадскасці нашай краіны. Зразумела, нехта ж павінен унесці прапановы. Вось міністэрства іх і ўнесла, падкрэсліваю, для абмеркавання. Калі нацыянальная педагагічная экспертыза вырашыць, што тую ці іншую прапанову трэба зняць са Стратэгіі, мы яе і здымем. Мы не давалі ніякіх "загадаў", каб пачалося абмеркаванне Стратэгіі ў настаўніцкіх калектывах. Кожны зацікаўлены можа выказваць свае думкі. Вось калі пачнецца абмеркаванне зместу навучання, змен у яго арганізацыі, то мы запросім настаўніцкія калектывы выказацца.

**— Думкі і прапановы аб шляхах рэфармавання сярэдняй агульнаадукацыйнай школы розныя, нярэдка процілеглыя. Якія з іх, на Ваш погляд, найбольш слушныя?**

— Галоўнае, у чым я ўпэўніўся з публікацый у газеце і ў час сваіх паездак па краіне, сустрэч з педагогамі — нам трэба ў бліжэйшы час удзяліць самую сур'ёзную ўвагу пачатковай школе, магчыма, каб не толькі першыя класы займаліся ва ўмовах дзіцячага сада, а наогул усе з 1-га па 4-ы. У пачатковай школе неабходна стварыць умовы, якія мы ствараем для дзяцей у дзіцячых садах. Калі нам гэта ўдасца зрабіць, то нашы дзеці будуць імкнуцца да вучобы, будуць расці здаровымі.

**— Але ж пра такія ўмовы можна пакуль што толькі марыць...**

— Можа і так, але прыклады, вартыя падтрымкі і пашырэння, ужо ёсць. У Рагачове я пабываў у дзіцячым садку, у якім працуе пачатковая школа — з першага па чацвёрты клас. Там цудоўныя ўмовы для навучання і выхавання дзяцей, настаўнікі эфектыўна выкарыстоўваюць методыку развіццёвага навучання. Пры дапрацоўцы Стратэгіі, мне здаецца, гэты вопыт трэба ўлічыць.

А што тычыцца іншых прапаноў, то я падзяляю думку тых, хто лічыць, што ў рэфармаванні школы нам не трэба спяшацца. Я хачу запэўніць настаўнікаў: ніякай спешкі з пераўтварэннямі ў адукацыі не будзе — падстаў для гэтага няма.

**— Значыць пераход да новага зместу навучання і да дванаццацігадовай адукацыі ў сярэдняй школе пачнецца не з наступнага года? Менавіта занепакоенасць гэтым гучыць у многіх пісьмах у рэдакцыю...**

— Хачу растлумачыць, што мы маем на ўвазе пад этапамі рэформы.

Напачатку мы павінны абмеркаваць рэформу з педагагічнай грамадскасцю, потым з усёй грамадскасцю нашай краіны. Гэта першы этап. Ён працягнецца чатыры — пяць месяцаў. Я думаю, што ў канцы зімы — пачатку вясны мы надрукуем праекты новых навучальных планаў, так сказаць першыя эскізы гэтых планаў і пачнем грунтоўна абмяркоўваць. Калі ўсё будзе ісці добра і мы не будзем марнаваць час, то ў 1996 годзе створым эксперыментальныя пляцоўкі — 10—12 па ўсёй краіне. Падкрэсліваю: размова ідзе аб стварэнні ў 1996 годзе толькі эксперыментальных пляцовак. Гэтыя пляцоўкі будуць працаваць не менш чым два гады. А ў 1998 годзе фактычна падыдзем да пачатку паступовага пераходу школ на новы змест і новы тэрмін навучання. Але 1996 год — гэта ўжо пачатак практычнай работы.

І яшчэ адзін прынцыпова важны момант. Каб рэформу ажыццявіць на самай справе, патрэбны адпаведнае рашэнне Вярхоўнага Савета і адпаведны Указ Прэзідэнта. А каб адпаведныя заканадаўчыя акты па рэформе былі прыняты, у бліжэйшыя гады нам і неабходна правесці падрыхтоўчую работу, пра якую я гаварыў вышэй.

**— Такім чынам, са сказанага Вамі можна зрабіць вывад, што эксперыментальныя пляцоўкі стануць своеасаблівымі "лакмусавымі паперкамі", якія дадуць (альбо не дадуць) "ход" сённяшняй задуме рэформы?**

— Паўтару яшчэ раз: калі ўсё будзе ісці так, як задумана, калі мы прапануем усё неабходнае — змест адукацыі, навучальна-нарматыўную дакументацыю, правядзем арганізацыйныя мерапрыемствы, — то рэформа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы пачне ажыццяўляцца па ўсіх параметрах толькі ў канцы гэтага альбо пачатку наступнага стагоддзя.

У апошнім нумары "Настаўніцкай газеты" адзін настаўнік ставіць пытанне катэгарычна: навошта нам сёння гэта рэформа? Я магу адказаць так: калі скончыць школу сённяшні першакласнік? У 2005 годзе. А калі ён атрымае вышэйшую адукацыю? У 2010 годзе. Дык няўжо ж нам трэба чакаць 2010 года, каб пачынаць рэформу? Мы павінны рыхтавацца да яе сёння. Сённяшнія першакласнікі змогуць працаваць самастойна праз пятнаццаць гадоў — у новых сацыяльна-эканамічных умовах. Дык што, мы сёння будзем сядзець, як на печы, склаўшы рукі, і не клапаціцца, каб падрыхтаваць сённяшняга першакласніка да жыцця і працы ў будучым? Што мы зможам даць яму праз пяць — сем гадоў? Калі ж мы асэнсуем, што трэба будзе тады рабіць школе, настаўніку?..

**— Выклікае ў чытачоў занепакоенасць і такі аспект пераходу на 12-гадовае навучанне: у базавых і сярэдніх школах павялічыцца колькасць класаў. А дзе ўзяць дадатковыя сродкі, абсталяванне? Няўжо давядзецца пайсці шляхам павелічэння зменнасці і напаўняльнасці ў школах? Рэальныя ж магчымасці для расшырэння будаўніцтва школ у бліжэйшай перспектыве наўрад ці з'явяцца...**



— На сёння сярэдняя зменнасць у школах краіны — 1,4. Гэта ў сярэднім. Зразумела, што ў адных месцах ёсць зменнасць, у другіх няма. У 9—10 класы ідуць толькі 54 працэнты вучняў, астатнія — у ПТВ, тэхнікумы альбо ўладкоўваюцца на працу. Я думаю, што з цягам часу ў сувязі з развіццём сеткі ПТВ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў колькасць тых, хто ідзе ў 11-я класы, будзе не больш як 40 працэнтаў.

Гэта расцягваецца на некалькі гадоў. І фактычна па напаўняльнасці класаў мы і не заўважым, што перайшлі да рэформы. Зразумела, школы нам трэба будаваць, але гэта неабходна рабіць незалежна ад таго, ці будзе рэформа.

А цяпер адносна фінансавання. Калі, напрыклад, адзінаццаты клас пойдзе у дванаццаты, то гэта фактычна азначае, што павелічэнне на працягу, скажам, 1995—96 гадоў у параўнанні з 1994 годам будзе толькі на 5 працэнтаў. Гэта значыць, што выдаткі на аплату працы настаўнікаў павінны будуць павялічаны на 5 працэнтаў. Але калі ўлічыць, што дадатковы год навучання будзе запаўняцца не больш чым на 40 працэнтаў новымі прадметамі, то выдаткі на аплату настаўніцкай працы складуць толькі 3 працэнты. Гэта толькі прыклад. Але калі думаць аб тым, што такі пераход на 12-гадовае навучанне расцягнецца на некалькі гадоў, то павелічэнне выдаткаў складзе 1,5 — 2 працэнты ў параўнанні з тым, што мы сёння маем.

**— А выдаткі на падручнікі?**

— Але ж падручнікі мы кожны год друкуем. А тыя фінансавыя расходы, якія пойдуць на тое, каб напісаць гэтыя падручнікі ці распрацаваць канцэпцыі — не такія вялікія, каб пра іх гаварыць. Фактычна мы маем магчымасць перайсці да рэформы ў гэтым стагоддзі без дадатковых грошай, а калі дадаць, што з цягам часу, я спадзяюся, адукацыя будзе фінансавацца ў памеры 10 працэнтаў ад нацыянальнага даходу, што прадугледжана Законам аб адукацыі, то гэта пытанне вырашальнае.

**— У каментарах да Стратэгіі Вы сказалі, што мяркуецца прапанаваць тры схемы навучання: 4+6+2; 6+4+2; 4+5+1+2. Ці будуць мець школы магчымасць выбару схемы?**

— Такое права ў іх будзе. У залежнасці ад матэрыяльнай базы, кваліфікаванасці настаўнікаў, мясцовых умоў. Кожная школа выбера сама пераход да дванаццацігадовага навучання, які адпавядае яе магчымасцям. Вырашаць будуць не чыноўнікі, а настаўнікі, бацькі, грамадскасць.

**— А як Вы ставіцеся да прапановы перайсці да структуры агульнай сярэдняй адукацыі без ступеняў: пачатковая — 6 гадоў, сярэдняя — 4 гады, г.зн. да схемы 6+4?**

— Шасцігадовая пачатковая школа працуе ў скандынаўскіх краінах. Гэту прапанову, як і іншыя, можна абмеркаваць за "круглым сталом", які магла б правесці "Настаўніцкая газета". Галоўнае ж для нас, бадай, тое, як ажыццявіць пераход да новай структуры, новага зместу, новых форм і метадаў навучання ва ўмовах канкрэтнай школы — вось якую загадку мы павінны разгадаць.

**— У сельскіх настаўнікаў узнікае і такое пытанне: на апошнім этапе школы другой ступені (у 8—10 класы) мяркуецца ўводзіць элементы дыферэнцыяцыі па змесце навучання, ствараць профільныя класы і класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў. Але ж у сельскіх базавых школах сярэдняя напаўняльнасць класаў — 6—8 чалавек, а то і менш. Як жа з імі арганізаваць, напрыклад, паглыбленае вывучэнне прадмета? Што вы думаеце на гэты конт?**

— Галоўнае ў тым, што рэформай прапануецца абавязковая дзесяцігадовая адукацыя. Змест навучання ў дзесяцігодцы павінен быць агульным. Для нас важна найперш, каб вучань скончыў дзесяць класаў і атрымаў пэўны мінімум ведаў. Дыферэнцыявана-варыятыўнае навучанне будзе залежаць ад жадання настаўніка. Галоўнае, паўтару, у тым, што школа павінна гарантаваць вучню мінімум ведаў. Стварэнне ж дыферэнцыявана-варыятыўнай школы — найскладанейшая навуковая, метадычная і арганізацыйная праблема, якая будзе прапрацоўвацца ў бліжэйшыя гады.

**— Як, напэўна, і стварэнне новага навучальна-метадычнага комплексу, новых праграм, падручнікаў?**

— Так. Мы мяркуем далучыць да вырашэння гэтых пытанняў часовыя калектывы настаўнікаў, якія будуць працаваць паралельна з міністэрствам, уносіць свае прапановы.

**— Стратэгія скарачае тэрмін знаходжання дзяцей у дзіцячым садзе — ад трох да шасці гадоў. Але ж ці варта адмаўляецца ад груп малодшага ўзросту?**

— Гэта пытанне слушнае. Думаю, што выхаванне дзіцяці ў дашкольных установах будзе пачынацца з узросту аднаго года.

**— Поспех рэформы ў многім абумовіць успрыняцце яе настаўнікамі і тое, ці змогуць яны авалодаць новым зместам адукацыі. Відавочна, што не абысціся без рэфармавання сістэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі педагагічных кадраў...**

— У настаўніцтва нашай краіны вялікі творчы патэнцыял, які, я ўпэўнены, будзе ўзбагачацца ў наступныя гады. Свой уклад у гэту справу ўнясе і сістэма павышэння кваліфікацыі педагогаў. Што тычыцца рэформы педагагічнай адукацыі, то яна ўжо вядзецца. Педагагічныя ВНУ і вучылішчы ўзялі накірунак на падрыхтоўку настаўніка з новымі падыходамі да навучальна-выхаваўчага працэсу.

**— Рэспубліканская Рада дырэктараў школ прапануе павысіць прававы статус дырэктара, у прыватнасці распрацаваць статус прафесіі "Дырэктар школы". Вы падзяляеце такую думку?**

— Падзяляю. Дырэктар школы — гэта сапраўды прафесія. Так што патрэбны толькі адпаведныя заканадаўчыя аспекты.

**— У адным з інтэрв'ю Вы сказалі, што да рэвалюцыі ў адукацыі лепш ісці шляхам эвалюцыі. Што Вы ўкладваеце ў сэнс слоў "шляхам эвалюцыі"?**

— Я ўжо гаварыў, што рэформа агульнай сярэдняй адукацыі пачнецца не раней 1996 года. Нам патрэбна, па-першае, добра падрыхтавацца да яе. Па-другое, не спяшацца. Па-трэцяе, падрыхтаваць адпаведную метадычную базу. І, па-чацвёртае, мы павінны захаваць усё добрае, каштоўнае, эфектыўнае, што ёсць у нашай адукацыйнай сістэме.

**— Вось мы і падышлі да пытання-лейтматыва, бадай, усёй рэдакцыйнай пошты. У адпаведнасці са Стратэгіяй, школа возьме на сябе адукацыйна-выхаваўчы кантроль за чалавекам да 18 год. У сацыяльным плане гэта зразумела, асабліва ў сённяшніх крызісных умовах. Але ж наколькі пабольшае ў школах навучальна-выхаваўчых праблем, якіх і без таго шмат! Ці ўсвядоміць наша дзяржава новы сацыяльны статус школы, ці створыць належныя ўмовы для працы педагогаў, ці будзе аплачваць гэту працу так, каб работнікі адукацыі жылі хаця б больш-менш адпаведна сваёй ролі ў грамадстве?**

— Зменяцца сацыяльна-эканамічныя ўмовы ў краіне — зменяцца і ўмовы жыцця і працы настаўнікаў. Гэта адназначна. Упэўненасці ў гэтым надае і тое, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка разумее праблемы адукацыйнай сферы, ставіцца да іх уважліва, падтрымлівае крокі па рэфармаванні адукацыі.

**— Значыць можна сказаць, што міністр адукацыі і навукі глядзіць у перспектыву з аптымізмам?**

— Менавіта так.

**— Ваша інтэрв'ю — пераднавагоднае. Што б Вы пажадалі настаўнікам, усім работнікам адукацыі у новым, 1995 годзе?**

—Па-першае, не траціць веру ў перамены да лепшага. Яны абавязкова будуць.

Па-другое, у самых складаных сітуацыях глядзець прама ў вочы сваім вучням, бо ад іх нічога не схаваеш.

Па-трэцяе, не забываць, што школа — гэта БУДУЧЫНЯ нашай краіны. І дзеля яе ўсе мы і павінны сёння працаваць.

## Віншуем з калляднымі святамі!



### САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

## Колькі чакаць зарплату?

У Шумілінскім раёне склаліся надзвычай цяжкія абставіны з выплатай заработнай платы настаўнікам. З пачатку 1994-95 навучальнага года педагагічныя работнікі атрымліваюць зарплату з вялікім спазненнем. Напрыклад, апошні раз грошы былі выдадзены ў сярэдзіне кастрычніка, многія настаўніцкія сем'і не маюць сродкаў для жыцця.

Хто ж, урэшце, дапаможа педагогам?

**В.БАБІЧАЎ,**
загадчык Шумілінскага райана.

## ЦЯРПЕННЕ НЕ БЯСКОНЦАЕ

У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы адбылася справаздачна-выбарчая прафсаюзная канферэнцыя. Дэлегаты канферэнцыі звярнуліся да заканадаўчай і выканаўчай улады Рэспублікі з заявай, у якой, у прыватнасці, гаворыцца наступнае.

У нас выклікае заклапочанасць узрастаючае абясцэньванне адукацыі і падзенне прэстыжу працы выкладчыкаў, іх статуса ў грамадстве.

Камерцыялізуецца навука, высокакваліфікаваныя спецыялісты пакідаюць ВНУ, скарачаецца аб'ём адукацыйных паслуг. Няма сродкаў для рамонту навучальных і жыллёвых будынкаў, лабараторных карпусоў, для выдання навуковай і навучальнай літаратуры.

Страчваюцца сацыяльныя заваёвы: бясплатная адукацыя, ахова здароўя, даступнасць да культурных каштоўнасцяў. Па сутнасці вышэйшая школа апынулася на абочыне жыцця. Нашы зберажэнні ператварыліся ў нішто, нас падманвалі і працягваюць падманваць.

Урад да гэтых часоў так і не зразумеў адну простую ісціну: рэфармаваць сістэму адукацыі і навукі можа толькі паўнапраўны грамадзянін, высокакваліфікаваны прафесіянал, вучоны, правы і інтарэсы якога надзейна ахоўваюцца законам.

Новы віток лібералізацыі цэнаў, які выяўляецца апошнім часам, без комплексных мераў па вывадзе эканомікі з крызісу, без патрэбнай абароны жыццёва важных інтарэсаў насельніцтва непазбежна прывядзе да сацыяльнага выбуху.

У сувязі са сказаным дэлегаты канферэнцыі прапануюць ураду:

— ажыццявіць рэальныя дзеянні па стабілізацыі эканомікі, грашова-фінансавай сістэмы; стварэнні роўных умоў для функцыянавання і канкурэнцыі розных формаў уласнасці; правядзенні раздзяржаўлення і прыватызацыі галосна, у інтарэсах працоўных калектываў, усіх катэгорый насельніцтва краіны; спыненні расцягвання народнай уласнасці па кішэнях дзяльцоў "ценявой эканомікі", адміністрацыйнай наменклатуры;

— прыспешыць структурную перабудову эканомікі, накіраваць яе на павелічэнне вытворчасці тавараў народнага спажывання, пашырэнне сферы паслугаў, ліквідацыю манапалізму;

— стварыць умовы для прыярытэтнага развіцця сістэмы адукацыі і навукі, вываду іх з крызіснага фінансавага становішча;

— забяспечыць выкананне закона аб адукацыі ў частцы фінансавання вышэйшай школы і вызначэння заработнай платы прафесарска-выкладчыцкага складу не ніжэй як 150% ад сярэдняга заробку служачых у прамысловасці;

— выдзеліць ільготныя крэдыты для работнікаў вышэйшай школы на будаўніцтва кааператыўнага і індывідуальнага жылля;

— прадаставіць установам адукацыі і навукі льготае падаткаабкладанне;

— вызначыць для работнікаў ВНУ кампенсацыю на аплату медыцынскіх паслугаў, лячэння і адпачынку;

— прывесці ў адпаведнасць заробак педагогаў з рэальным коштам іх працы.

По даручэнні канферэнцыі

**У.ХІЛЮТА,**
старшыня прафкама Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

# НГ-ІНФАРМ

## ВЕСТКІ

Рэспубліканскі дзіцячы аздараўляльны цэнтр "Зубраня" ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета.

* * *

У пачатковай школе № 216 Мінска з эстэтычным ухілам займаюцца 220 дзяцей. У школе, акрамя асноўных прадметаў, ёсць нямала і дадатковых: этычная граматыка, курс пра чалавека і чалавечыя ўзаеміны і інш.

* * *

У сярэдняй школе № 104 Мінска працуе музей баявой славы. У ім знаходзіцца 1200 экспанатаў. Гэта асабістыя рэчы салдатаў і камандзіраў, партызанаў, дакументы, фотаздымкі. Былы тэхнік самалёта М.Гастэлы перадаў рукапіс кнігі "207 авіяцыйны полк". Ёсць у музеі і падрабязныя звесткі пра дзеянні авіяцыйнага палка "Нармандыя — Нёман".

**Міхась АНІСЕНКА .**

* * *

На не запланаваныя праграмай канікулы мусіла распусціць навучэнцаў дырэкцыя валожынскага ПТВ № 208. З-за таго, што ў тэрмін не ўдалося запусціць кацельню, пераведзеную на газ, далейшыя заняткі ў неацепленых памяшканнях, як і пражыванне ў інтэрнаце, сталі проста немагчымымі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

* * *

Адраджэнню беларускай культуры, нацыянальнай свядомасці прысвяціла сваю работу ў праўдзінскім ПТВ № 111 Мінскай вобласці выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Наталля Уладзіміраўна Губарэвіч. Па яе ініцыятыве ў вучылішчы створаны музей народных рамёстваў, экспанаты для якога збіралі і навучэнцы, і выкладчыкі.

* * *

Гомельскае ВПВ № 17 кулінарыі працягвае апякунскую работу ў Доме дзіцяці. Выхаванкі вучылішча наведваюць гэтую ўстанову штодня с радасцю, дапамагаюць яе персаналу даглядаць маленькіх дзяцей, якія засталіся без мацярынскай ласкі. Дзяўчынкі прыносяць ім цацкі, ласункі, арганізуюць гульні.

**Ала КЛЮЙКО.**

### НЕ ЎСЁ ТАК ДРЭННА

## НОВЫ ДОМ — НОВЫЯ НАДЗЕІ

У новы будынак пераехаў Мінскі педагагічны каледж.

Не адну школу ўзвялі будаўнікі, але былі нямала здзіўлены той хуткасцю, з якой брудная, пустая будыніна ператваралася ва ўтульны, гасцінны дом.

Перавзджалі ўвесь верасень. Дзяўчаткі наводзілі чысціню, хлопцы збіралі мэблю. Яшчэ і цяпер у каледжы можна бачыць людзей у рабочых халатах. Гэта настаўнікі, якія, каб рабіць сваю галоўную справу, падчас "фортак", да заняткаў і пасля іх, часта разам з сям'ёй, становяцца сталярамі, электрыкамі, малярамі — прыводзяць кабінеты ў належны выгляд.

Ёсць у новага збудавання недахопы. І месца, дзе яно размешчана, не вельмі ўдалае — кругом будоўлі. Але дырэктар Аркадзь Адамавіч Бялькевіч упэўнены: "Пры сённяшніх эканамічных умовах, калі будаўніцтва стала непамерна дарагім, скардзіцца на дробязі, якія можна выправіць самім, мы проста не маем права".

Дырэктар знаходзіць нават самых неспадзяваных памочнікаў. Яго будоўлі дапамагаюць і бацькі навучэнцаў. А што значыць багатая фантазія і працавітыя рукі дзяцей і выкладчыкаў! Праектам не былі прадугледжаны кабінеты для індывідуальных заняткаў музыкай. Гуканепранікальнымі перагародкамі падзялілі на тры часткі вялікія класы — хутка ў каледжы будзе 18 такіх кабінетаў.

Аркадзь Адамавіч хуценька вядзе нас па калідорах: цудоўна аформленыя кабінеты гісторыі Беларусі і беларускай мовы, два кабінеты інфарматыкі, прасторная бібліятэка, дзве фізічныя і выставачная залы, майстэрні... Напэўна, займацца тут адно задавальненне.

Новы дом — новыя надзеі. І няхай гэтыя светлыя надзеі апраўдаюцца.

**Галіна СІДАРОВІЧ,**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# НГ-інфарм

## СВЕЖЫЯ ЧАСОПІСЫ

### "Народная асвета"

Апошні ў гэтым годзе, дванаццаты, нумар часопіса адкрываецца артыкулам прарэктара па навучальнай рабоце Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі А.Чарняк, прысвечаным удасканаленню і развіццю дзейнасці метадычных устаноў Рэспублікі Беларусь у сучасных умовах у сувязі з адраджэннем нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання вучнёўскай моладзі.

Пад рубрыкай "Арганізацыя народнай адукацыі" надрукаваны артыкулы дырэктара крупскай сярэдняй школы №2 Д.Караня "Педклас — эфектыўная форма дыферэнцыяцыі навучання", настаўніка Мацькавіцкай сярэдняй школы Вілейскага раёна І.Камеля "Вучобай трэба кіраваць".

Артыкул дацэнта кафедры псіхалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта В.Багаслоўскай і псіхолага гродзенскай сярэдняй школы №27 А.Ткацэвіч "Уяўленні педагогаў аб "цяжкіх" школьніках" змешчаны пад рубрыкай "Пытанні педагогікі і псіхалогіі".

Выхаваўчай працы з вучнёўскай моладдзю і рабоце з сям'ёй прысвечаны артыкулы дацэнта кафедры педагогікі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата педагагічных навук В.Дарошкі "Чалавек — асноўны фактар" і члена камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі і культуры, старшага выкладчыка кафедры сацыяльнай педагогікі і прафесійнага майстэрства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта А.Нікaнчука "Сацыяльны педагог і сям'я".

Планаванне ў нумары прадстаўлена праграмай курса экалогіі для гімназій, а таксама праграмай факультатыўнага курса "Асновы эканамічнага краязнаўства" для 9-га класа.

У дапамогу настаўнікам-славеснікам надрукаваны артыкул дацэнта кафедры рускай мовы Белдзяржуніверсітэта, кандыдата філалагічных навук А.Долбік "Рэалізацыя камунікатыўна-дзейнаснага падыходу пры вывучэнні складаназлучанага сказа". Выкладчыкам геаметрыі адрасуецца артыкул настаўніка Глінкаўскай сярэдняй школы Столінскага раёна Ю.Царыка "Метад каардынат пры рашэнні некаторых задач". Педагогам, якія займаюцца пазакласнай работай з вучнямі, прапануецца артыкул дацэнта кафедры агульнай фізікі Белдзяржуніверсітэта, члена журы Рэспубліканскай алімпіяды па фізіцы Г.Кямброўскага "Фізічны эксперымент на алімпіядах" і заканчэнне артыкула Я.Мяшэчкі "Сістэма назіранняў у навакольным асяроддзі па геаграфіі". Выкладчыкам вышэйшых педагагічных навучальных устаноў адрасаваны артыкул прарэктара па навучальнай рабоце Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Н.Баранавай "Рысы новых мадэлей адукацыі".

Уладзімір ЯКУБОВІЧ.

## АКЦЫЯ "НАШЫ ДЗЕЦІ"

**Па ініцыятыве Міністэрства адукацыі і навукі пры падтрымцы кіраўніцтва краіны напярэдадні Новага года праводзіцца дабрачынная акцыя "Нашы дзеці" для дзяцей-сірот, а таксама для дзяцей, якія пазбаўлены сямейнага акружэння або апынуліся ў іншых неспрыяльных умовах ці экстрэмальных сітуацыях.**

Кіраўнікі міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама возьмуць удзел у гэтай акцыі, наведаюць дзіцячыя дамы, у тым ліку сямейнага тыпу, школы-інтэрнаты, апякунскія (прыёмныя) сем'і, бальніцы, павіншуюць дзяцей з Новым годам, Калядамі, уручаць ім падарункі, пазнаёмяцца з існуючымі сёння праблемамі аховы дзяцінства, будуць шукаць шляхі іх вырашэння.

У Мінскім Доме афіцэраў для гэтых дзяцей прайшоў дабрачынны канцэрт "Зоркі беларускай эстрады — дзецям".

Прэс-цэнтр
Міністэрства адукацыі і навукі.

## ЧАРГОВЫ НУМАР ЗБОРНІКА

Снежаньскі нумар "Зборніка нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь" прапануе сваім чытачам азнаёміцца з загадам міністэрства "Аб зацвярджэнні інструкцыі аб парадку падлічэння стажу работы па спецыяльнасці асноўных катэгорый спецыялістаў і кіраўнікоў устаноў і арганізацый, якія адносяцца да галіны "Адукацыя".

Да ведама педагагічных работнікаў краіны даводзіцца Парадак увядзення ў дзеянне Пераліку спецыяльнасцей, спецыялізацый і кваліфікацый вышэйшых навучальных устаноў.

Друкуецца таксама Пералік дакументаў, якія былі надрукаваны ў Зборніку на працягу 1994 года.

Рэдакцыйная калегія.

## Сустрэча з Радай дырэктараў

На сустрэчы з Радай дырэктараў Мінска, якую правёў міністр адукацыі і навукі прафесар В.Стражаў, былі абмеркаваны надзённыя праблемы педагогаў. У асноўным яны датычылі эканамічнага становішча работнікаў сферы.

Востра стаяла пытанне і пра тое, які статус мае зараз дырэктар, якія функцыі ўскладзены на яго ў працэсе арганізацыйна-педагагічнай і метадычнай дзейнасці. Большасць дырэктараў "скардзілася" міністру на вялікую колькасць праверак, што праводзяцца самымі рознымі інстанцыямі, пачынаючы з санітарных службаў і заканчваючы пракуратурай. Ад іх не паспяваюць адбівацца школы, часам такія частыя праверкі перашкаджаюць навучальна-выхаваўчаму працэсу.

Адзначалася, што на сёння педагагічныя калектывы павінны ўсвядоміць, ацаніць і абагульніць тое, што адбываецца ў рэфармаванні нацыянальнай школы. Гэтага патрабуе час, гэтага вымагаюць адукацыйныя патрэбы грамадства. Захаваць у складанай эканамічнай сітуацыі ствaральную сілу пераўтварэнняў, не згубіць галоўнае, правільна размеркаваць, знайсці адпаведнае часу — стрыжань размовы, якую вёў міністр. Дыскусійнай стала прапанова аб скасаванні адзнакі ў пачатковай школе.

Разам з тым востра паўсталі пытанні пра наданне школе большай самастойнасці, пошукі магчымасцяў зарабляць грошы, падаткаабкладанне, кадравае забеспячэнне школ настаўнікамі замежнай, беларускай мовы і фізічнага выхавання, заключэнне з дырэктарамі кантрактаў, перыядычныя выданні і падручнікі. Абмяркоўваліся стратэгічныя напрамкі развіцця адукацыі. Міністр В.Стражаў падкрэсліў, што сёння дзейнасць школы больш накіравана на падрыхтоўку вучняў для паступлення ў ВНУ. Гэта не зусім правільна. Школа павінна задаволіць адукацыйныя запыты, даць ім магчымасць вучыцца і навучыцца. І справа кожнага пасля атрымання базавай адукацыі — зрабіць свой выбар.

Міністр зарыентаваў удзельнікаў размовы на паступовасць і пераемнасць правядзення рэформы ў школе. Ніхто не прыспешвае настаўніка кінуцца з галавой у хуткія пераўтварэнні.

Рада дырэктараў Мінска падтрымала захады міністра. Падкрэслівалася карысць такіх рабочых сустрэч. В.Стражаў паабяцаў сустрэцца з удзельнікамі ў чарговы раз у лютым 1995 года.

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

# НГ-інфарм

## Тэлебачанне на ўроку

### ПАЗАКЛАСНАЕ ЧЫТАННЕ
### СЯБРУЙЦЕ З "ВЯСЁЛКАЙ"

26, 27 снежня — 3 клас

З дапамогай тэлебачання вучні "пабываюць" у рэдакцыі часопіса "Вясёлка". Яго галоўны рэдактар Уладзімір Ліпскі пазнаёміць трэцякласнікаў з супрацоўнікамі выдання, з яго героем Васем Вясёлкіным. Школьнікі даведаюцца, як робіцца часопіс і хто гэтым займаецца, што новае чакае іх у рубрыцы "Наша спадчына", творы якіх пісьменнікаў прачытаюць чытачы на старонках "Вясёлкі" у новым, 1995 годзе, пра новы конкурс "Малюнак у падарунак".

У перадачы прагучаць некаторыя творы аўтараў часопіса.

Аўтар — Мікола МАЛЯЎКА.

### МУЗЫКА
### МУЗЫЧНЫ ВОБРАЗ

27, 28 снежня — 7 клас

Тэма раскрываецца на прыкладах твораў беларускіх кампазітараў. Вядучая падкрэслівае, што з дапамогай музычнага вобраза кампазітар адлюстроўвае навакольны свет, жыццё людзей, іх характары і пачуцці. Адзінаму музычнаму вобразу можа быць прысвечаны цэлы твор ці, наадварот, адзін музычны твор можа ўтрымліваць шэраг розных вобразаў.

У перадачы будуць выкарыстаны творы Л.Мурашкі — "Роздум", Ул.Помазава — "Вясковыя музыкі", А.Багатырова — арыя Кузьміча з оперы "У пушчах Палесся", Я.Глебава — балет "Ціль Уленшпігель" (сцэна "Павукі"), І.Лучанка — песня "Бяроза" і некаторыя іншыя.

Аўтар і вядучая — музыказнаўца Ж.ЦЫРКУНОВА.

Перадача падрыхтавана ў 1993 годзе.

### ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
### АБАРОНА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

29, 30 снежня — 9 клас

Перадача пачынаецца кінакадрамі старой крэпасці, даваеннымі фотаздымкамі маладых афіцэраў, іх сем'яў, салдат. На экране — пажоўклыя старонкі пісьмаў воінаў, якія служылі ў гарнізоне Брэсцкай крэпасці напярэдадні вайны. Дакументальная кінахроніка пераносіць гледача ў апошнія гадзіны мірнага чэрвеня 1941 года.

Наступае 22 чэрвеня, 4 гадзіны раніцы... Налёт фашысцкай авіяцыі, залпы артылерыі, выбухі бомбаў... Абаронца крэпасці Г.С.Макараў успамінае пра першыя гадзіны вайны.

Завяршаецца перадача панарамай сучаснага выгляду мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", партрэтаў абаронцаў, якія захоўваюцца ў музеі і крэпасці.

Перадача створана і запісана ў 1991 г. Брэсцкай студыяй тэлебачання.

## Смуткуе Бацькаўшчына

Беларускае прыгожае пісьменства, гуманістычная навука, нацыянальная культура панеслі цяжкую страту: памёр Уладзімір Андрэевіч Калеснік, слынны вучоны-літаратуразнавец, пісьменнік, педагог, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, мужны патрыёт нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны. Асірацела сям'я. Асірацела асяроддзе навукоўцаў-выкладчыкаў і літаратараў найперш Берасця і Берасцейшчыны, краю, дзе ён 40 гадоў жыў і працаваў, дзе, будучы загадчыкам кафедры педінстытута, выхаваў не адно пакаленне настаўнікаў, быў і застаўся ўзорам беларускага інтэлігента, чалавекалюба і працалюба, узорам сумленнага служэння беларускай нацыянальнай ідэі.

Яго прысутнасць азначала ўплыў.

Носьбіт духоўнасці, яе самаадданы апостал, У.А.Калеснік энергіяй свайго інтэлекту, эрудыцыі сілкаваў душы людзей, узнімаў іх, як сонца ўзнімае ўсё жывое, даваў магчымасць адрываць вочы ад жыцейскіх клопатаў і пераносіцца ў вялікі і вабны свет мудрасці і хараства, скажам, Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, ці ў свет надзіва багатай, іскрыстай і ўдумлівай, часам шчымлівай, прозы Янкі Брыля, цудоўнай размаітай паэзіі Ніны Мацяш, Міхася Рудкоўскага, Алеся Разанава, ці ў свет "мудрага непісьменнага пісьменніка" казачніка Рэдкага... Так было ў сцюжы і маразы, адлігі і слоту, у гады перагібаў, вакханаліі і хаосу. Праз ліхалецце класавай барацьбы, драму сялянства і трагедыю інтэлігенцыі, праз пекла вялікай айчыннай бяды, страшны разбуральны час дэнацыяналізацыі, нядрэмнай ідэалагічнай пільнасці пранёс Уладзімір Калеснік сваю ўражлівую і гарманічную, ці, калі можна так сказаць, паліфанічную душу і падарыў свету творы высокай мастацкай пробы. Ён валодаў рэдкасным дарам, здольнасцю аднолькава цікава і маштабна напісаць пра творчасць і самога творцу; у яго кнігах, прадмовах да кніг, у літаратурных партрэтах, нарысах, артыкулах, створаных вялікім сэрцам і глыбокім розумам, мы знаходзім нямала ўзораў менавіта такой сінхроннасці, двуадзінства творчасці і творцы, калі гаворка ідзе, напрыклад, пра Уладзіміра Жылку, Валянціна Таўлая, Міколу Засіма, Фёдара Янкоўскага, Рыгора Раманавіча Шырму, Максіма Танка, Янку Брыля, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Караткевіча, Ніну Мацяш, Алеся Каско. Дапытліваму чытачу ён няўтомна паказваў неардынарныя, змястоўныя постаці на шырокім фоне народнага жыцця, грамадскіх падзей, гісторыі, на фоне айчыннай культуры, літаратурнага творчага працэсу Беларусі і ўсяго свету.

Ідэалагічныя халопы-пастухі кантралявалі яго творы на дарозе да чытача, ім карцела згладзіць вострыя вуглы, зняць "лішнія" раздзелы і старонкі, не раз учынялі яны такое калецтва. Але і ў тых умовах яму ўдавалася ахоўваць мастацкае слова і фальклор ад наскокаў вульгарных тэарэтыкаў і іх тэорый, аберагаць праўду мастацтва.

З'яваю ў літаратуры станавіліся не толькі грунтоўныя даследаванні, але і палемічныя артыкулы ў перыёдыцы. У.А.Калеснік імкліва рос як майстар слова. Ад "Паэзіі змагання" ён дарос да "Усяго чалавечага". Вышэй і глыбей сягала думка, больш вобразнаю рабілася мова; дзякуючы крушэнню таталітарызму, паслабленню ідэалагічнага глуму і кантролю, пачалі знявечаныя творы вяртацца з рэанімацыі, ісці да чытача.

Ужо ў цяжкім стане здароўя ён працаваў над партызанскаю кнігай "Блакада" (часопіс "Беларусь", №№ 8—12), прасякнутай мужнасцю і любоўю аўтара да сумленных змагароў за свабоду краіны і нянавісцю як да захопнікаў, так і да камандзірскага тупога дыктату і подласці. Над кнігаю, гранічна праўдзівай, напоўненай жорсткімі жыццёвымі рэаліямі.

У.А.Калеснік поруч з Алесем Адамовічам і Янкам Брылём стварaў унікальную кнігу "Я з вогненнай вёскі..." І гэта быў не першы прыклад плённага сааўтарства. Раней, у 1962 годзе, ён у сааўтарстве з Фёдарам Янкоўскім выдаў кнігу "Вусная мова і выразнае чытанне".

Бог даў Уладзіміру Калесніку незвычайны дар гармоніі, вытанчаны мастацкі густ. Дзякуючы Уладзіміру Андрэевічу на кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута ўпоравень з іншымі навукамі пайшло і выразнае чытанне, бо ён добра ведаў цану мастацкага слова, не прамямленага будучым настаўнікам, а прамоўленага выразна, прыгожа. Талент У.А.Калесніка быў шматгранны. Мала хто ведае, які ён быў цудоўны разьбяр і мастак, якая пяшчотная на яго карцінах родная прырода! А які выдатны ён быў мастак-фатограф!

Годна ішоў па зямлі ён, Настаўнік, вучыў годнасці іншых, дужа дбаў пра нацыянальную свядомасць беларусаў.

Пры ўсёй сваёй велічы быў ён сціплым чалавекам. Пад сваім імем ніколі не ставіў высокіх званняў лаўрэата ці заслужанага... І не насіў ордэнаў і медалёў. А быў узнагароджаны ордэнам "Вялікай Айчыннай вайны" І ступені, "Знакам пашаны" і ордэнам "Дружбы народаў", дзевяццю медалямі.

Ды галоўнае, вядома, не ўзнагароды і не званні. Галоўнае цяпер — багатая духоўная спадчына, якая застанецца народу на памяць пра яго вернага сына. Яе руплівы і апантаны стваральнік пайшоў на вечны спачын. Няхай жа будзе пухам яму родная зямля, якую ён так шчыра любіў!

Васіль ЖУКОВІЧ.

# ЁСЦЬ НАВУКА ЧАЛАВЕЧНАСЦІ...

## ГОД СЯМ'І ЗАКАНЧВАЕЦЦА. АЛЕ ПРАБЛЕМЫ СЯМ'І ЗАСТАЮЦЦА. ДЫК, МОЖА, ВАРТА АБ'ЯВІЦЬ КАЛІ НЕ СТАГОДДЗЕ, ТО ХАЦЯ Б ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ СЯМ'І?

У лістападзе 1993 года Вярхоўным Саветам прыняты Закон "Аб правах дзіцяці". Ён базіруецца на Канвенцыі аб правах дзіцяці, Канстытуцыі Беларусі, вызначае прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да дзіцяці, правы і абавязкі дзяржаўных органаў, устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, грамадскіх арганізацый і грамадзян па ахове дзяцінства.

Зацікаўленымі органамі ў нашым раёне праводзіцца мэтанакіраваная работа па выкананню гэтага Закона. На пасяджэнні рады па адукацыі разглядалася пытанне аб задачах педкалектываў школ і дашкольных устаноў па рэалізацыі Закона, а на пасяджэнні выканкама райсавета — аб рабоце па ахове дзяцінства ў раёне.

Пытанні аховы дзяцінства, забеспячэння правоў дзіцяці каардынуе і вырашае аддзел адукацыі райвыканкама. Педкалектывы падтрымліваюць пастаянныя кантакты з інспекцыяй па справах непаўналетніх, судом, пракуратурай, РАУС, райбальніцай, ЗАГСам, прадпрыемствамі. Пастаянна вывучаецца стан спраў у "цяжкіх" сем'ях, вырашаюцца пытанні адлучэння дзяцей ад бацькоў, якія страцілі і маральныя, і юрыдычныя правы на іх выхаванне.

У аддзеле адукацыі сёння стаіць на ўліку 39 непаўналетніх. 19 з іх пражываюць у Уздзе, астатнія — на вёсцы. 18 сем'яў, у якіх выхоўваюцца 23 дзіцяці, маюць статус апякунскіх. На апякаемых дзяцей выплачана ў гэтым годзе амаль 5 мільёнаў рублёў.

Значную работу праводзяць грамадскія арганізатары па ахове правоў дзіцяці. Яны кантралююць умовы жыцця і выхавання дзяцей, складаюць акты абследавання, сочаць за расходаваннем грашовых сродкаў і г.д.

У апошнія пяць гадоў прыкметна палепшыліся ўмовы для выхавання і навучання дзяцей у школах: удасканальваецца аздараўленчая і фізкультурна-масавая работа, назіраецца тэндэнцыя зніжэння захворваемасці ў дзіцячых дашкольных установах. На падзешаўленне харчавання школьнікаў сёлета выдаткавана больш як 146 мільёнаў рублёў.

Варта асобна сказаць аб грамадскіх інспектарах па ахове дзяцінства. На гэтыя пасады падабраны самыя адказныя, умелыя педагогі, якія праяўляюць аб дзецях, што засталіся без апекі, сапраўды бацькоўскія клопаты. Гэта Аляксандр Іосіфавіч Брылеўскі з Нёманскай, Анатоль Анатольевіч Гаўрышчук з Лашанскай, Марыя Аляксандраўна Кульбіцкая з Ліцвянскай, Валянціна Фёдараўна Чарнюк з Цялякаўскай, Марыя Віктараўна Клемянок з Таўкацэвіцкай школ.

Добрасумленна, як правіла, адносяцца да сваіх абавязкаў апекуны. Яны сапраўды замянілі дзецям бацькоў, стварылі ім нармальнае жыццё. Гэта, у прыватнасці, датычыць сям'і Ірыны Афанасьеўны Нічыпаровіч з вёскі Галавачы, якая амаль з пялёнак выхоўвае пяцёра дзяцей, сям'і Наталлі Рыгораўны Валчэцкай з г.п.Узда, якая выхоўвае чацвёра дзяцей, і многіх іншых.

Не забываюць аб непаўналетніх, што жывуць на іх тэрыторыях, сельскія Саветы. Дастаткова сказаць, што пытанні аховы правоў дзяцей, узаемадзеяння Саветаў, школ, працоўных калектываў, грамадскасці заслухоўваліся на сесіях у Ліцвінскім, Цялякаўскім, Сямёнавіцкім, Нёманскім, Азёрскім, Уздзенскім сельскіх Саветах. Можна смела сказаць, што ў гэтых, а таксама ў гарпасялковым Савеце склалася адладжаная сістэма ў рабоце па ахове правоў дзіцяці.

Разам з тым поспех у гэтай справе будзе толькі тады, калі яна робіцца ва ўзаемадзеянні з усімі зацікаўленымі службамі. На жаль, так атрымліваецца не заўсёды. Напрыклад, тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне ніяк не можа вырашыць поўнасцю пытанне аб паглыбленым медаглядзе апякаемых дзяцей.

У раёне жыве 52 дзіцяці-інваліды. Яны, як і дзеці-сіроты, патрабуюць асаблівага падыходу. Але не заўсёды настаўнікі ведаюць пра такіх дзяцей. Таму ім патрэбна дапамога медыкаў. Недастатковы кантроль педагагічных калектываў і за паводзінамі вучняў у пазаўрочны час. Ды і бацькоўская грамадскасць нярэдка ўхіляецца ад вырашэння школьных пытанняў. У выніку сёлета непаўналетнімі здзейснена 10 злачынстваў, зарэгістравана нямала выпадкаў п'янства, хуліганства, крадзяжоў. На жаль, у рэдкіх выпадках на пасяджэннях выканкамаў Саветаў, на сесіях абмяркоўваюцца пытанні выхавання дзяцей у канкрэтных сям'ях, няма спросу з бацькоў правапарушальнікаў.

Многае трэба яшчэ зрабіць па ўмацаванні матэрыяльнай базы аздараўленчых устаноў, у прыватнасці летніка ў Магільным, некаторых школ.

На зыходзе 1994 год — Год сям'і. Падзеі папярэдніх і гэтага года ў многіх краінах СНД і ў нас канчаткова пераканалі ў тым, што шчаслівае дзяцінства залежыць у многім ад сямейнага дабрабыту. Сучасная сям'я, акрамя традыцыйных, уласцівых ёй і ў мінулым, функцый, стала выконваць ролю псіхалагічнага сховішча — месца зняцця напружання і стварэння спрыяльнага эмацыянальна-псіхалагічнага клімату. А ён, у сваю чаргу, залежыць ад узаемаразумення паміж усімі членамі сям'і, іх упэўненасці ў трываласці сямейнага саюза, ад жыллёвых умоў, матэрыяльнага дабрабыту, адукацыі, цікавага правядзення вольнага часу, кола сяброў і г.д.

Адзін старажытны мысліцель сказаў, што ў здаровым целе жанчыны — будучае народа. Нам, нарэшце, трэба прызнаць, што нараджэнне і выхаванне дзяцей, стварэнне і падтрыманне дома — гэта таксама грамадска карысная дзейнасць, раўнацэннай замены якой не прыдумалі і наўрад ці прыдумаюць. І хаця зараз больш паловы працуючага насельніцтва складаюць жанчыны і работа для большасці з іх даўно ўжо стала больш, чым проста крыніцай даходаў, час паглядзець на праблему працуючых жанчын з другога, больш шырокага пункту гледжання — захавання чалавецтва. Па падліках эканамістаў, дзяржаве выгадней утрымліваць жанчыну з дзецьмі дома да дасягнення апошнімі шасці гадоў, чым аплачваць бальнічныя лісты "па догляду", а таксама траціць вялізныя сродкі на ўтрыманне шырокай сеткі дашкольных устаноў.

Ёсць і другі бок гэтай праблемы — псіхалагічны. Псіхолагі даказалі, што ва ўзросце да 5 гадоў дзіця павінна знаходзіцца пераважна з маці. У гэты перыяд фарміруецца якасць псіхікі, закладваюцца асновы маралі. Мацярынская любоў і ласка дабратворна ўплываюць на гэтыя працэсы. Варта прызнаць, што грамадствам дапушчана вялікая памылка ў тым, што дзеці пагалоўна адпраўляюцца ў сады і яслі. Замест узаемін з мамай мы прымусілі дзіця наладжваць узаеміны з аднагодкамі і чужой цёткай. Праявы гэтага бачны і праз некалькі пакаленняў. Сённяшнія многія маладыя мамы, якія прайшлі ў дзяцінстве "інстытут" дзіцячага сада, не ўмеюць і не хочуць у поўным аб'ёме займацца такой цяжкай і складанай працай, як выхаванне дзяцей.

Вы можаце спытаць: што рабіць з дзіцячым садам? Адказ на гэтае пытанне дала два гады назад амерыканка беларускага паходжання Вера (так яна сябе прадставіла), якая прывозіла ў раён гуманітарную дапамогу. Яна тады папрасіла паказаць ёй дзіцячы сад. Пасля наведання сада №4 у райцэнтры яна заявіла, што "мы будзем пераймаць ваш вопыт дашкольнага выхавання, таму што праблема сям'і і ў Амерыцы стаіць гэтак жа востра, і мы зацікаўлены забіраць дзяцей на выхаванне з цяжкіх сем'яў". Вось гэтую ідэю Веры і нам неабходна браць на ўзбраенне — дзіцячы сад трэба пакінуць толькі для дзяцей з цяжкіх сем'яў.

А каб такіх сем'яў і дзяцей было як мага менш, трэба паклапаціцца ўсім нам. Дзяржава, грамадства, школа, бацькі павінны імкнуцца павысіць адказнасць моладзі перад шлюбам і сямейным жыццём, растлумачваць сваім выхаванцам сацыяльную прэстыжнасць бацькоўства і мацярынства, выхоўваць псіхалагічную гатоўнасць юнакоў і дзяўчат да шлюбу, прадаставіць ім неабходныя веды па гігіене і па догляду дзіцяці, псіхалогіі дашкольнага, педагагічнага ўзросту, псіхагігіене сексуальнага жыцця, асноўных праблемах узаемаадносін паміж мужам і жонкай, нарэшце, засваенню ўменняў найбольш рацыянальнага вядзення хатняй гаспадаркі, эфектыўнай і эканомнай арганізацыі бюджэту сям'і. Вось тут да месца будзе прывесці словы В.А.Сухамлінскага: "Якой-небудзь спецыяльнай "навукі любові няма" — ёсць навука чалавечнасці".

Год сям'і заканчваецца. Але ўпэўнены, многія праблемы сям'і застануцца. Дык, можа, аб'явіць нам калі не стагоддзе, то хаця б дзесяцігоддзе сям'і? Жарт жартам, але сям'я, асабліва зараз, у гэты неспакойны, супярэчлівы, цяжкі час патрабуе самай пільнай увагі і падтрымкі дзяржавы і ўсяго грамадства.

Пётр МОТЫЛЬ,
загадчык аддзела адукацыі
Уздзенскага райвыканкама.

СЕЛЬСКІЯ БУДНІ

# З ЛУНІНЕЦКАГА ДЗЁННІКА

(Заканчэнне. Пачатак у №№99 — 102)

***

— Ідуць гуртам забіраць маладую, з гармонікам. Паперадзе малады з караваем — Мікалай Лявонавіч Чарнавокі, яго жонка ў нас цяпер тэхнічкай працуе. А пад фатаграфіяй подпіс: сваты — то гэта памылка.

— У сваты такой чарадой не хадзілі.

— Гэта цяпер не ходзяць! А тады ўсёй раднёй ішлі.

— А як пары зладжвалі! Сустрэнуцца на кірмашы мужыкі і кажуць: у мяне дзеўка на выданні, у цябе хлапец, давай пажэнім...

— А было такое. "Запілі" адну дачку, а бацька на вяселлі пад абразы другую пасадзіў, старэйшую, бо яе ніхто не браў. Гвалт: "Чаму так?!" — " А ў маіх дзяцей няма аб'ядзей". Куды дзецца, узялі, што даюць. І, гавораць, маладыя добра жылі.

— Даўней вяселле ноччу гулялі. Маладую на конях везлі, пасаг забіралі адразу — палатно, кужаль, наматкі... Пасля вяселля правяралі, ці працавітая маладая: вылівалі вядро вады і пазіралі — ці пераступіць, ці мыць падлогу пачне.

А яшчэ яны расказвалі пра колішнія і сённяшнія калядкі, дзяды — ды ці мала пра што могуць расказаць вам у Дзятлавічах.

Яны — гэта школьны арганізатар Любоў Васільеўна Чарнавокая, дырэктар Іван Фёдаравіч Тадорскі ды настаўніца Ангеліна Ануфрыеўна Канапацкая. Шкада, не было Марыі Мікітаўны Барычэўскай, паехала ў Брэст у ІУН на курсы і прыхапіла чамадан альбомаў, накшталт таго, вясельнага. Скажаце, справа не ў альбомах, альбомы для праўяраючых? Глупства, шаноўныя. Вазьміце ў рукі любы — ёмкі, тоўсты, маляўнічы — і не адарвешся, пакуль не перагорнеш апошнюю старонку. Такі скарб па краязнаўстве ці знойдзеш дзе яшчэ: садзіся — і пішы кнігу пра Дзятлавічы. Зрэшты, чаму б Марыі Мікітаўне яе і не напісаць?

Будзе вельмі казённа, калі сказаць, што тут клапоцяцца пра нацыянальнае культурнае адраджэнне. Проста яны вельмі любяць родны куточак і хочуць ведаць пра яго літаральна ўсе — і настаўнікі, і вучні. Не пад прымусам "адраджэнскіх" законаў — ад шчырага сэрца. І заезджаму чалавеку распавядаюць пра Дзятлавічы з ахвотай — толькі папрасі.

— У нас вёска, як ваш Мінск, дзеліцца на "мікрараёны", — жартуе Іван Фёдаравіч. — І ў кожнага — імя.

Любоў Васільеўна запрашае "прайсці" Дзятлавічамі:

— Сярэдак — гэта дзе цэнтр, магазін. Як ехаць да чыгункі — Лука. Рэчка Цна некалі рабіла там паварот і намыла пясчаную касу. Папоўшчына — каля пошты, бо некалі была тут царкоўна-прыходская школа. Заляззе — раней на балоце сялілія купкамі, на сушэйшым, дзе кусцілася лаза. Майдан — у тым месцы смалу варылі. Манастыр — быў у шаснаццатым стагоддзі кляштар. Царква — па месцы старога храма, ад якога адны разваліны. Старую царкву будзем рэстаўраваць, а пакуль паставілі часовую. А вось чаму Саладоўня — не ведаю. Адно знаю, мама гаварыла, там у бытнасць манастыра былі могілкі, бо ветрам выдувала косці — вялікія, значыць продкі нашы высокімі, прыгожымі былі — і ўпрыгажэнні. На могілках і капліча стаяла...

— А я — Барыня, — нечакана перарывае расповяд Любоў Васільеўна і смяецца (умее яна смяяцца, гэтая палеская красуня — нягучна цёпла, даверліва, а прывабная ўсмешка з вуснаў, мабыць, і ў сне не сыходзіць). — Па-вулічнаму так клічуць. Бабка мая была стройная, відная і першай у вёсцы пашыла плацце (раней насілі спадніцу з блузкай). Вось і празвалі — і бацька мой стаў — Васіль Барыня, і брат яго Іван... І мужа цяпер Барынем клічуць.

А ў нас і нельга інакш — заблытаешся. Іванаў Сцяпанавічаў Канапацкіх — сямёра. Які патрэбен? Лапата? Ясна... Мужык мой, Іван, — Лаштай, бо Чарнавокіх Іванаў — тры ці чатыры. Лаштаі, таму што майстравалі бочкі: лашты-лашты дый зробіць (лашты — стукаць). — Зноў смяецца: — Калі б я пачала гаварыць па-палеску, то вы не ўсё і зразумелі б. Наша гамонка мешаная — у ёй і польскія, і ўкраінскія, і рускія, і беларускія словы.

— Ну вось, колішнія дзятлаўскія дзяўчаты такія ўвішныя ды спрытныя былі, — вяртаюся я на пачатак размовы. — А цяперашнія?

Пытанне "зняла" Ангеліна Ануфрыеўна. Яе рукі плюс рукі вучняў — і маем цудоўную палітру даматканых дываноў, посцілак, дарожак, паясоў, сурвэтак... Майстэрства гэтае ў Дзятлавічах не зводзілася, а цяпер можна пэўна сказаць — і не звядзецца, бо старадаўняе мастацтва ткаць, вязаць, вышываць захоплена спасцігае моладзь. За ткацкі станок садзяцца і Любоў Васільеўна, і Марыя Мікітаўна, і іншыя настаўніцы і будучыя нявесты — дзяўчаткі-вучаніцы. Зрэшты, не бяда, калі не кожную запалоніць высокае ткацкае майстэрства, затое звязаць рукавічкі, шалік, швэдар, пашыць тапкі, навучыцца рамантаваць апратку — як жа без гэтага жонцы і маці. Дарэчы, у вязальны гурток ходзяць і хлопцы. Ну, а якая ж гаспадыня, калі гатаваць не ўмее. Пра выхаванак Ангеліны Ануфрыеўны гэтага не скажаш. Зацірка, галушкі і бульбянікі ў іх атрымліваюцца выдатныя, у чым няцяжка ўпэўніцца, пабываўшы на школьных фальклорных святах, якія ладзяцца па народным календары. І кампоты дзяўчаткі самі на зіму ставяць, і пячэнне пякуць...

І трэба думаць, калі свякроў перакуліць ля парога вядро з вадой, здагадаюцца, што рабіць трэба.

...Дзякуй Богу, здаецца, дажылі да таго часу, калі настаўнік працы перастаў быць рабочым па доглядзе школьнага будынка — там зламалася, там развалілася... Калі ты не штукар, калі ў цябе "рукі не адтуль растуць" — у школу не трапіш, бо на "вакансіі" настаўнікаў працы — конкурс. І цяпер у кожнай вялікай і малой школе ёсць творчы гурток. У Язвінках і Дварцы рэжуць лыжкі, у Луніне бандары з'явіліся, у Вялуце, Вялікіх і Малых Чучавічах інкрустуюць, плятуць саломкай, абручыкі для валасоў робяць, у Багданоўцы гліняныя свістулькі выштукоўваюць, у Мікашэвічах — "самапіскі" драўляныя размалёўваюць... Будзе і ганчарная справа.

А яшчэ будуць музеі. У Велуце — адукацыі, у Багданцы — лесу, у Палескім — доследна-меліярацыйнай станцыі, у Чучавічах — лекавых раслін, у Бастыні — воінаў-інтэрнацыяналістаў (не толькі "афганцаў")... У Мікашэвічах даўно ўжо ёсць экалагічны (і ці не лепшы ён у Рэспубліцы?). А тое, што ў Міжлессі адзіны на Беларусі музей дзіцячай творчасці — гэта адназначна.

... Не важна, колькі беларускіх слоў у лексіцы палескай гамонкі. Куды больш істотна іншае: колькі беларушчыны ў школьных буднях. Як па мне, дык яе ў другім па велічыні раёне нашага краю акурат, каб лічыць Лунінеччыну апірышчам беларускага духу.

***

Вялікі педагог і тонкі псіхолаг Антон Сямёнавіч Макаранка, магчыма, знайшоў бы свае рашэнні гэтых, так званых педагагічных сітуацый. А можа і не знайшоў бы, бо, мяркуючы па яго знакамітай "Паэме", ён з імі не сутыкаўся. Ва ўсякім разе з адной. Ці то час быў іншы, ці то яму такое і ў нядобрым сне не магло падацца.

Ну, а паколькі наш дырэктар "рангам" на Макаранку не цягне (а хто цягне?) і можа зрабіў нешта не так, дык мы пакінем за ім інкогніта.

Цёмнай ночкай тры хлапцы, а з імі Тома, залезлі ў дзіцячы сад і ціха-мірна, па добрай Томчынай згодзе, зладзілі там "групэнсекс". І ўсё было б глуха, ды нячыстая пагнала хлапцоў на новую прыгоду — укралі яны машыну. На чым і пагарэлі. У міліцыі пачалі разбірацца: чым займаліся да злачынства? А вось тым і займаліся. Дапрасілі Тому. Яна дала такія падрабязныя тлумачэнні, што следчы за галаву хапаўся. Паколькі Тома да ўгону дачынення не мела, яе "справу" перадалі ўчастковаму інспектару, з чым той і прыйшоў да дырэктара школы. Паклікалі Тому, і дырэктар асцярожна гэтак гаворыць: не зусім прыгожа, маўляў, атрымліваецца. А ў адказ чуе адкрытым тэкстам: "Каму хачу — таму і даю". Гэта дзевяцікласніца — дырэктару! Той моўчкі "з'еў" кукіш. Выклікае маці: "Ну як ваша дачка гадуецца, ці не перабірае ў гулянцы?" — "Што вы, яна такая сціплая!" — "А гэта?" — і напісаную дачкой паперу падае. — "Ой, хаця ж нікому!.." — А па вачах бачна, навіна маму не надта каб ўразіла. Тую маму наогул ці чым здзівіш, мама спакойна прымае сённяшнюю рэальнасць. Напрыклад, старэйшая дачка Галя выйшла замуж за араба, у якога адна жонка і чацвёра дзяцей у яго далёкай "арабіі", другая — у Маскве, трэцяя — Галя. І на ўсіх грошай хапае. Галя задаволена, мама таксама, а Тома Галі зайздросціць.

Адным словам, Томчыны паводзіны адэкватныя атмасферы ў сямейцы, пра якую я расказаў далёка не ўсё, але і гэтага досыць.

Што рабіць дырэктару? А нічога — рабіць выгляд, быццам усё ладам. Бо дзе, у якой інструкцыі напісана, што дзевяцікласніцы "нельга"?

...Забягае ў кабінет маладая вучыцелька: "Што я бачыла, што я бачыла!" — "Што ж вы бачылі?" — "Заглянула ў піянерскі пакой, а там важатая з адзінаццацікласнікам цалуецца!"

Канешне, піянерскі пакой — не лепшае месца для заняткаў каханнем. І будзь на месцы гэтага дырэктара іншы, ён, відаць, паклікаў бы закаханых і як след "адсцябаў". А "піянерку" ўчарашнюю, дарэчы, выпускніцу — мо і звольніў бы (прычыну заўсёды проста знайсці). Іван Іванавіч — так яго назавем — паглядзеў на "інфарматара" і кажа: "А помніце, вы з хлопцамі з адзінаццатага класа пасля выпускнога на возера ноччу ездзілі..."

Настаўніца хуценька пераняніла тэму.

Такі вось дырэктар. Дока педагагічных сітуацый. Куды яму да Антона Сямёнавіча...

Што гэта, скажаце, за школа, калі там такое творыцца. Самая звычайная, нічым ад іншых не адрозная. Ваша школа, толькі крыху з іншымі варыяцыямі і дзеючымі асобамі.

***

...Зноў зіма. Ці цёпла ў Палескай школе Рафаловіча і ў кабінеце ягонага завуча Людмілы Аляксандраўны, дзе стаіць прэзентаваная дырэктарам "жалезабетонная" батарэя? У другога дырэктара, які з персанальным катлом, пэўна, усё нармальна.

Зрэшты, як-небудзь перазімуем, балазе Прэзідэнт паабяцаў, што ні галадаць, ні мерзнуць не будзем. На лепшае ў Лунінцы спадзяюцца ўсе: і колішняя лепшая лыжніца раёна Любоў Васільеўна Чарнавокая, і былы старшыня сельсавета ("За які б занятак настаўнік ні хапаўся, рана ці позна ўсё роўна вернецца ў школу") Іван Фёдаравіч Тадорскі, які вельмі любіць памідоры і наразводзіў іх ажно 54 гатункі, і трохі дзівакаваты дырэктар маладога саўгаса "Міжлессе", што падарыў школе трактар і духавы аркестр, Іван Сцяпанавіч Сідун...

Тэлефаную Філіновічу. Няма. Праз якую гадзіну звоніць сам. З Мінска. Прыехаў афармляць паперы на чарговую групу аздараўленцаў. Цяпер стаіць з Сідаравічам на ўездзе ў горад, на Казінца, 44, і калупаюцца з машынай — "паляцеў" трамплёр. Дзе ж ён не паляціць, ваш трамплёр, калі ні Сідаравічу, ні "Масквічу" — ні дня, ні ночы: надоечы ў Брэсце вы "згубілі" глушыцель...

Не, Уладзімір Лук'янавіч, не напішаце вы сваю дысертацыю: дзень малы, ноч кароткая. Што зімой, што летам.

Анатоль АЎРАМЧЫК.

